№ 40 (3883)

27 мая 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ





АКТУАЛІІ

*Святлана КАЛІНКІНА*

# Жыве Беларусь!

**Аляксандр Лукашэнка паведаміў Ксеніі Сабчак, што Беларусь не мае нацыянальнай ідэі. Паскардзіўся, што тамы кніг на гэтую тэму напісаны і ляжаць у яго на стале, але ўсё не падыходзіць, усё не тое.**

**Не ведаю, хто там і што пісаў для Аляксандра Рыгоравіча, але ён не першы і не адзіны, хто канстатуе: "Беларускай нацыянальнай ідэі няма..." І ў адказ можна сказаць толькі адно: "Спадары, расплюшчыце вочы і пачысціце вушы!"**

**Нацыянальная ідэя ў Беларусі ёсць. Прычым некалі гэта была ідэя адной палітычнай сілы, потым яе сталі падхопліваць усё новыя пласты грамадства, а ў выніку яна аб'яднала і апазіцыянераў, і прыхільнікаў сённяшняга рэжыму, і людзей, цалкам апалітычных. Менавіта так і павінна быць, гэта класіка!**

**Вось я днямі на свае вочы бачыла, як ішлі па цэнтры Мінска хакейныя балельшчыкі з зялёна-чырвонымі афіцыйнымі сцягамі і самаддана, гучна, горда крычалі: "Жыве Беларусь!"**

**Многія ўжо і не марылі, што ў сённяшняй Беларусі такое магчыма. Многія і не думалі, што лозунг "Жыве Беларусь!" выйдзе за межы апазіцыйнага асяродку. Але здарылася.**

**Прычым людзі выкрыкваюць "крамольны" лозунг, не маючы на ўвазе ні ўладу, ні апазіцыю, ні Пазьняка, ні Лукашэнку, — толькі сваю краіну, прыналежнасць да свайго народа.**

**Дык ці не гэта — тая самая ідэя, якая аб'ядноўвае нацыю? Ці не гэтага жадаем мы ўсе — каб жыла наша краіна, каб жыў наш народ! Каб мы, беларусы, не пакутавалі, не выжывалі, а сапраўды жылі! Каб упэўнена, годна адчувалі сябе і сёння, і заўтра, бо наша Беларусь — жыве!**

**Нейкі дурань у свой час давёў сітуацыю да абсурду: маўляў, лозунг "Жыве Беларусь!" трэба катэгарычна забараніць, бо ён апазіцыйны. І забаранілі! Больш за тое, людзей арыштоўвалі, судзілі, кідалі за краты, так і запісаўшы ў пратаколах: "Выкрыкваў антыдзяржаўны лозунг "Жыве Беларусь!".**

**Але калі "Жыве Беларусь!" — вокліч антыдзяржаўны, то атрымліваецца, што "Сканай, Беларусь!" — гэта дзяржаўны падыход?..**

**Абсурд — гэта яшчэ мяккае слова. Бязглуздзіца, ахінея, дзікунства!.. Але ва ўсім гэтым мы жылі шмат гадоў і па інерцыі працягваем жыць сёння.**

**Няма, кажа Лукашэнка, нацыянальнай ідэі. І гэта значыць толькі тое, што ён не жадае бачыць відавочнае.**

**Колькі ні забаранялі вокліч "Жыве Беларусь!", а ён усё роўна прабіваўся нават на афіцыйныя мерпрыемствы, дзе асэнсоўваюць кожнае слоўца — хаця каб галоўнаму гледачу дагадзіць.**

**Колькі ні каралі за тое, што чалавек выкрыкваў "Жыве Беларусь!", а вокліч падхапілі людзі, якія ўвогуле па-за палітыкай.**

**Сёння гэты лозунг малююць на спінах, на майках, крычаць ва ўсё горла, нікога не баючыся. І, заўважце, АМАП ужо не кідаецца хапаць "ворагаў народа" за крамольныя словы. І Аляксандр Лукашэнка, хоць, можа, і сцяўшы зубы, але церпіць. Ідэі — яны заўсёды мацнейшыя за брутальную сілу. У нашым выпадку можна канстатаваць, што ідэя, нягледзячы ні на што, перамагла.**

**"Жыве Беларусь!" Гэта сёння ўжо не палітыкі на акцыі апазіцыі выкрыкваюць. Гэта лозунг, які падхапілі людзі. Жыве Беларусь! Жыве наш народ! Жыве наша дзяржава!**

**Нехта скажа: "Ну што гэта за нацыянальная ідэя? Неяк занадта ўсё проста, патрэбны тамы даследаванняў, кніг, філасофскіх трактатаў..."**

**Адказваю. У канцэнтраваным выглядзе нацыянальная ідэя менавіта такой і павінна быць. Яснай, эмацыянальнай, жыццесцвярджальнай, аб'ядноўваючай.**

**"Кіруй, Брытанія, морамі, англічане ніколі не будуць рабамі!" — англійская патрыятычная песня і адначасова — нацыянальная ідэя Вялікай Брытаніі.**

**Ідэя свабоды як такой і славутая "амерыканская мара" — гэта нацыянальная ідэя Злучаных Штатаў Амерыкі.**

**У Савецкім Саюзе нацыянальнай ідэяй было будаўніцтва самага справядлівага грамадства — "Уся ўлада — народу!".**

**На ідэі Вялікай Германіі і ўнікальнасці нямецкай нацыі паўстаў Гітлер — "Германія перадусім".**

**Кітай зрабіў рывок на ідэі Паднябеснай імперыі, "новага вялікага паходу"... І вось ужо Кітай з былой калоніі стаў адной з самых магутных дзяржаў свету.**

**Падобна на тое, што і сённяшняя Расія намацала сваю нацыянальную ідэю. "Расія, наперад!" І Расія пачынае экспансію пад лозунгамі "рускага свету", да якога, паводле іх разлікаў, маюць дачыненне ўсе, хто гаворыць па-руску.**

**Зразумела, што для нас такая руская ідэя — пагроза. Тым больш што яшчэ дастаткова тых, хто гатовы змяніць свой нацыянальны дом на пакой у неасавецкім інтэрнаце. І, канешне, іхняй ідэі мы павінны супрацьпаставіць сваю. "Жыве Беларусь! Жыве вечна!"**

У СОСЕДЕЙ

# Даля Грибаускайте сохранила пост президента Литвы

Во втором туре выборов президента Литвы победила действующая глава страны **Даля Грибаускайте**. Она получила более 58 процентов голосов. Ее соперник — социал-демократ **Зигмантас Бальчитис** получил 41,32 процента. Явка на выборы составила 46,89 процента, тогда как в первом туре показатель превышал 50 процентов.

На пост главы Литвы претендовали также лидер "Избирательной акции поляков Литвы" **Вальдемар Томашевский,** мэр Вильнюса **Артурас Зуокас,** мэр **Игналины Бронис Ропе** и депутат **Наглис Путейкис**.



ДОСЬЕ

## *Ее экономические университеты*

Президент Литвы Даля Грибаускайте родилась 1 марта 1956 года в городе Вильнюсе.

В 1983 году окончила Ленинградский (ныне Санкт-Петербургский) государственный университет по специальности "политическая экономия". В 1992 году обучалась по программе для руководителей в Джорджтаунском университете (Вашингтон, США). Доктор социальных наук.

В 1983 году работала ученым секретарем общества "Знание" при Академии наук. В 1983—1984 годах была заведующей кабинетом сельского хозяйства, в 1985—1990 годах — преподавателем кафедры политической экономии Вильнюсской высшей партийной школы.

С 1990-го по 1991 год — ученый секретарь Института экономики Литвы при Министерстве экономики Литовской Республики.

В 1991 году работала руководителем программ в правительстве Литвы. Возглавляла департамент по европейским делам в Министерстве международных экономических отношений Литвы.

В 1993 году занимала должность директора экономического департамента Министерства иностранных дел Литвы.

В 1994 году Грибаускайте была назначена чрезвычайным посланником и полномочным министром миссии Литовской Республики при Европейском Союзе.

В 1996—1999 годах исполняла обязанности полномочного министра в Посольстве Литвы в США.

В 2001—2004 годах — министр финансов Литвы.

В 2004 году была делегирована на работу в Европейскую комиссию в качестве комиссара, отвечающего за финансовое программирование и бюджет Европейского Союза.

С 12 июля 2009 года занимает пост президента Литвы.

В ноябре 2005 года удостоена звания "Комиссар года" за усилия по реформированию бюджета Европейского Союза.

Является почетным доктором Джорджтаунского университета США. Владеет четырьмя иностранными языками.

*Пётр ПАРАШЭНКА:*

## "Мой асабісты прыклад павінен пераканаць Аляксандра Лукашэнку, што сумленная перамога і падтрымка ўсяго свету — гэта тое, да чаго варта імкнуцца"

Такую заяву зрабіў новаабраны прэзідэнт Украіны 26 мая на прэс-канферэнцыі ў Кіеве, адказваючы на пытанне БелаПАН пра перавагі дэмакратычнага шляху змены ўлады.

Паводле слоў Парашэнкі, у яго з Аляксандрам Лукашэнкам "досыць даўнія і добрыя адносіны". *"Я лічу, той факт, што мы ў свой час знайшлі кампраміс па пытанні дзяржаўнай мяжы, што мы эфектыўна выйшлі з гандлёва-эканамічнага супрацьстаяння, якое суправаджала ўкраінска-беларускія адносіны доўгі час, паказвае, што мы ўмеем знаходзіць кампрамісы ў складаных сітуацыях",* — сказаў палітык. Галоўнай матывацыяй для развіцця дэмакратыі ў Беларусі Парашэнка бачыць удзел краіны ў ініцыятыве Еўрасаюза "Усходняе партнёрства".

*"Магу сказаць, што калі б наша рэвалюцыя не перамагла, то праграма "Усходняе партнёрства" была б няўдачай Еўрасаюза,* — сказаў Парашэнка. — *Пераканаеы, што пасля перамогі, у тым ліку і пасля маёй перамогі на прэзідэнцкіх выбарах, адкрываюцца зусім новыя перспектывы не толькі перад Украінай. Мы сёння можам гаварыць ужо пра зусім зразумелую і выразную пазіцыю Малдовы, Грузіі, Украіны".*

Парашэнка "абсалютна пераананы" ў тым, што Беларусь павінна скарыстацца ўсімі перавагамі "Усходняга партнёрства".

БЛІЦ

*Не дай Бог, каб наступныя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі праводзіліся ў такой, можна сказаць, ваеннай абстаноўцы, у якой яны адбыліся днямі ва Украіне. У той жа час ніхто з незалежных, незаангажаваных назіральнікаў не папракае суседзяў у тым, што вынікі галасавання ў іх аказаліся сфальсіфікаванымі. Нягледзячы на надзвычай складаныя ўмовы, волевыяўленне народа праходзіла (за выключэннем некалькіх паўднёва-ўсходніх раёнаў) пры захаванні ўсіх дэмакратычных працэдур.*

## *Што трэба зрабіць нам, беларусам, каб вынікі наступных прэзідэнцкіх выбараў не былі сфальсіфікаваны?*

### Генадзь ЛЫЧ, эканаміст, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук:

— Я лічу, што для таго, каб выбары не былі сфальсіфікаваныя, у нас павінны быць вельмі моцныя апазіцыйныя партыі, якія карысталіся б падтрымкай усіх слаёў насельніцтва. Тады можна і склад Цэнтральнай выбарчай камісіі мяняць, і тэхналогіі розныя ўжываць... А пакуль мы мірна спім і ў анучку дыхаем, усё застаецца як ёсць.

### Аляксандр ЯРАШУК, старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:

— Каб вынікі выбараў не былі сфальсіфікаваныя, трэба, каб цяперашняя ўлада ў іх не ўдзельнічала. У іншым выпадку мэта будзе недасягальная. Ніякія празрыстыя скрыні ці іншыя меры нічога не вырашаць. І мы ніколі не даведаемся, колькі людзей бралі ўдзел у выбарах, колькі з іх за каго прагаласавалі. Толькі праз нейкі час пачуем нешта кшталту: "За дзеючага кіраўніка прагаласавала каля 90%, але ён спісаў столькі працэнтаў, колькі захацеў". Не раз ужо гучалі такія прызнанні, і нібыта так і трэба.

### Іван ШЭГА, медык:

— Сёння выбары — гэта фарс і вартая жалю імітацыя сапраўдных выбараў. Народ мусіць мець кантроль над выбарамі, і толькі тады іх вынікі не будуць фальсіфікавацца. Сённяшні выбарчы працэс — гэта ўлада і людзі, якія ім прыслугоўваюць. Пакуль змяніць нічога немагчыма. У такіх выбарах няма сэнсу ўдзельнічаць. Такія выбары трэба папросту ігнараваць.

### Аляксандр КАЗУЛІН, экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта:

— Трэба, каб змянілася свядомасць у народа. Інакш нічога не атрымаецца. Свядомасць у рэшце рэшт паступова зменіцца. А пакуль палітыкам трэба спыніць практыку зарабляць грошы на выбарах.

### Алег СТАХАЕВІЧ, рабочы:

— Ніколі не будзе чэснага падліку галасоў тымі камісіямі, якія ў нас ёсць. Уся праблема, я ўпэўнены, у фарміраванні камісій. У нас ёсць заканадаўства, ёсць нібыта адпаведныя артыкулы, але мы нічога не можам даказаць, бо ў склад камісій уваходзяць людзі, якія ніколі не пойдуць сведчыць супраць улады. Калі ж у камісіі патрапяць на нейкіх парытэтных пачатках тыя людзі, якія ўваходзяць у штабы кандыдатаў, тады будзе зусім іншая размова. Іншыя сябры камісій будуць баяцца, што іх схопяць за руку. А гэта ж крымінальная адказнасць.

### Алег ГАЕЎСКІ, пенсіянер:

— Каб выбары не фальсіфікаваліся, трэба адсунуць ад іх галоўнага фальсіфікатара — уладу. Іншага шляху няма. Інакш усё будзе рабіцца дзеля таго, каб улада была такая, якая патрэбна гаспадарам Крамля. Усё ўзаемазвязана. Цяпер на прыкладзе Украіны стала відавочна, чаго вартая тая ўлада, якая падтрымліваецца звонку, і чаго нам чакаць у тым выпадку, калі нешта пойдзе насуперак крамлёўскай камандзе тут, у нас. Зразумела, што ніякія знешнія рэформы не дадуць ніякага плёну. Я ўпэўнены, у нас тут усе ўсё разумеюць, але, напалоханыя, ціхенька сядзяць пад венікам.

### Зміцер ДАШКЕВІЧ, маладзёжны лідар, былы палітвязень:

— Бачу толькі адзін рычаг, які дапамог бы дамагчыся справядлівых выбараў, — гэта выхад на Плошчу. Калі нехта будзе даказваць, што гэтага нельга рабіць, то гэта будуць альбо вар'яты, якія нічога не разумеюць, альбо супрацоўнікі спецслужбаў, у якіх заданне гасіць любое праяўленне актыўнасці, каб усё заставалася як ёсць яшчэ 20 гадоў. Пры цяперашняй уладзе ніхто ніколі не падлічыць нашы галасы. Мы яшчэ 100 разоў пачуем, як даваўся загад перапісаць вынікі. У аўтарытарнай дзяржаве толькі мы самі можам дамагчыся выбараў. Нам іх на спадачку ніхто не прынясе.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ВЗГЛЯД ИЗ КИЕВА

# Что скажет российский агитпроп?

25 мая 2014 года президентские выборы в Украине состоялись.

Несмотря на то, что в стране идет война, что некоторые политические силы — как местные, так и зарубежные — пытались сорвать их проведение, украинский народ сплотился и впервые с 1991 года выбрал президента страны в первом туре. В среднем по стране более 60% избирателей пришли на избирательные участки и сделали свой выбор. Террористы и коллаборационисты всячески препятствовали проведению выборов в Донецкой и Луганской областях. Но даже там, несмотря на угрозы физического уничтожения в адрес участников процесса, в некоторых районах и городах выборы проводились, и многие граждане пришли на избирательные участки.

Уверенную победу в первом туре выборов одержал Петр Порошенко. Его ближайший конкурент Юлия Тимошенко набрала менее 14% голосов. Третьим идет лидер Радикальной партии Олег Ляшко. Порядка шести пророссийски настроенных кандидатов в президенты, которые еще недавно состояли в правящей тогда Партии регионов и в компартии, набрали в совокупности около 11%.

Еще одна особенность этой кампании: кандидаты-националисты Олег Тягнибок и Дмитрий Ярош на пару набрали около 2% голосов, что оказалось немногим меньше, чем набрал кандидат Рабинович. Похоже, сейчас российский агитпроп вынужден будет менять пропагандистскую риторику. Ведь они убеждали российское общество, что власть в Украине захватили националисты, фашисты, "жидобандеровцы", но по результатам голосования получается, что это далеко не так. Националисты в Украине имеют гораздо меньшую поддержку населения, чем националисты в Европе и в самой России.

Путин потерпел очередное поражение в Украине. Украинский народ сплотился и оказался на высоте, но российские пропагандисты уже пытаются навязать общественному мнению мысль, что Порошенко не является общенациональным лидером. Мол, выбор его президентом только усилит раскол страны. По их мнению, Порошенко является представителем западной Украины, а остальная часть страны якобы его не выбирала. Но и этот тезис является очередной ложью российской пропаганды. Впервые за последние 20 лет по результатам общенациональных украинских выборов не произошло раскола между результатами голосования по линии запад—центр против юга—востока. Если ранее максимальную поддержку избирателей на западе и в центре страны имели кандидаты с проевропейской предвыборной риторикой, а на юге и востоке — кандидаты с пророссийской, то сейчас картина совершенно иная. По всей Украине, включая Донецкую и Луганскую области, на первом месте идет проевропейский политик Петр Порошенко. Да, его результаты в процентном отношении в этих областях несколько ниже, чем на западе и в центре Украины, но тем не менее он лидер общественного мнения и там.

Это говорит о том, что перед существующей внешней экспансией Украина объединилась. Петр Порошенко должен это осознать, понять, что его выбирали не потому, что он такой хороший, а потому, что народ устал от сложившейся в стране ситуации. Граждане Украины хотят коренных изменений в экономике и политике. Выборы показали, что народ дал Порошенко существенный кредит доверия. От него ждут решительных действий по наведению порядка в Украине. Но этот кредит может быстро иссякнуть, если Петр Порошенко не оправдает доверия. Вернуться в страну, какой она была до 30 ноября 2013 года, украинское общество новому президенту просто не позволит.

Основные ожидания украинского народа заключаются прежде всего в скорейшем окончании войны на востоке страны, в формировании сильного единого проевропейского некоррумпированного государства. После окончания голосования Петр Порошенко сделал ряд заявлений касательно тех вопросов, которые интересуют украинцев. Он сказал, что антитеррористическая операция против вооруженных боевиков будет проводиться более решительно и результативно, а с мирными гражданами будет вестись диалог. Новый президент будет добиваться досрочных местных выборов на востоке Украины, чтобы жители Луганской и Донецкой областей сами выбрали себе власть. Он поддерживает требования народа Украины и будет добиваться, чтобы в ближайшее время были назначены досрочные выборы в парламент. Уже дана команда представителям Порошенко выставить на продажу находящиеся в его собственности предприятия.

Пока все это слова, хотя они очень важны. Но народ ждет от президента действий. Времени на раскачку у Петра Порошенко нет...

**Александр ЦЫНКЕВИЧ, собственный корреспондент "Народной Воли" в Украине.**

НАДВОР'Е

## *Пагрэліся? Зараз будзем мокнуць*

Дажджлівае і ветранае надвор'е ўстановіцца ў Беларусі на бягучым тыдні, паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.** А ў сераду яшчэ і прыкметна пахаладае.

*"Пад уплывам франтальнага раздзелу паўднёвы і паўднёва-ўсходнія вятры зменяцца паўночным. Цёплае паветра пачне пакідаць тэрыторыю Беларусі, перамяшчаючыся ў паўднёвым напрамку",* — сказаў Дзмітрый Рабаў. Тэмпература паветра ноччу складзе плюс 11—18 градусаў, у паўночных раёнах будзе ад 8 да 10 градусаў цяпла. У дзённыя гадзіны прагназуецца ад 13 градусаў цяпла па паўночным захадзе да 26 градусаў цяпла па паўднёвым усходзе краіны. На значнай частцы тэрыторыі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, днём у асобных раёнах могуць ісці моцныя дажджы. Месцамі прагрымяць навальніцы. У чацвер на большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, па паўднёвым усходзе месцамі — моцныя дажджы, чакаюцца навальніцы. Ноччу чакаецца плюс 6—13 градусаў, днём будзе ад 12 да 19 градусаў цяпла, па паўднёвым усходзе ноччу прагназуецца плюс 14—16 градусаў, днём — ад 20 да 25 градусаў са знакам плюс.

ФОТА ДНЯ

# Стыхія разбушавалася...






*Учора на Мінск абрынулася моцная залева. Град памерам з вінаградзіну атакаваў прыпаркаваныя на вуліцах аўтамабілі. На некаторы час у сталіцы быў паралізаваны рух грамадскага транспарту.*

*Як паведамілі сіноптыкі, памер граду склаў ад 11 да 20 міліметраў у дыяметры.*

*Затопленай пасля залевы аказалася Няміга. І гэта нягледзячы на тое, што яшчэ ў мінулым годзе быў пабудаваны новы калектар ад Нямігі да вуліцы Маякоўскага.*

*Несуцяшальны прагноз даюць сіноптыкі і на сёння, 27 мая: у Мінску зноў чакаецца моцны дождж з навальніцай і градам.*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## 3 гады калоніі

Суд Першамайскага раёна Мінска ўчора паставіў кропку ў гучнай справе былога дырэктара фабрыкі “Слодыч” **Таццяны Селіх**.

Падчас спрэчак у судзе дзяржабвінаваўца запатрабаваў прызначыць Таццяне Селіх пакаранне ў выглядзе 5 гадоў пазбаўлення волі. Пракурор заявіў, што Селіх праслухоўвала перамовы супрацоўнікаў праз свой працоўны камп’ютар, да якога было падключана адпаведнае абсталяванне. На яе камп’ютары захоўваліся аўдыёзапісы размоў. Акрамя гэтага, пракурор пералічыў доказы віны экс-дырэктара “Слодыча”, у тым ліку спаслаўся на паказанні сведак. Некалькі разоў ён звярнуў увагу на тое, што дамовы і іншыя дакументы, што тычыліся мадэрнізацыі ўнутранай тэлефоннай сувязі на фабрыцы, падпісваліся заднім чыслом.

Абарона і сама Селіх не прынялі яго аргументы, палічыўшы, што былога дырэктара трэба апраўдаць. Аднак суд Першамайскага раёна Мінска асудзіў Таццяну Селіх да 3 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

ЗДАРЭННЕ

## Трапілі пад... слуп

У Гомелі ўпаў ліхтарны слуп, пры падзенні асвятляльная апора зачапіла дзвюх жанчын, якія ў той момант ішлі па тратуары. Адна з іх каціла каляску з малым дзіцем. Дзіця не пацярпела — жанчына паспела адштурхнуць каляску.

Як паведамляюць ва УУС аблвыканкама, з папярэднім дыягназам “страсенне мозгу і зрушэнне шыйнага пазванка” адну з пацярпелых шпіталізавалі ў абласную бальніцу. Другая жанчына атрымала траўму жывата, і пасля аказання меддапамогі яе адпусцілі дадому.Паводле звестак міліцыі, асвятляльныя апоры знаходзяцца ў веданні гомельскага прадпрыемства “Гарэлектратранспарт”. Слупы на гэтым участку вуліцы ўстаноўлены ў 1991 годзе, тэрмін іх службы 40—50 гадоў. Пры гэтым кожныя паўгода канструкцыі павінны праходзіць праверку. Калі яна праводзілася апошнім разам, высвятляецца. Таксама прызначана экспертыза, якая ўстановіць прычыну падзення асвятляльнай апоры.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА,*
*доктор экономических наук,*
*профессор*



# Для кого он «свой парень»?

Когда-то в бундестаге Германии Владимир Путин привел в восторг местных парламентариев своей речью, произнесенной на хорошем немецком. Россию пригласили в клуб ведущих мировых держав G7, назвав его G8. Но, начиная с 2007 года, содержание и тональность его выступлений перед западниками стали меняться. В них все больше звучали претензии к западным партнерам, нотки обиды.

В общем, для Запада он так и не стал “своим парнем”. Западные демократические стандарты Путину не подходили. Окончательный его развод с цивилизованным миром мы наблюдаем сегодня в связи с отторжением Крыма от Украины и дальнейшим развитием российско-украинского кризиса. Понятно, что в одиночку противостоять США и Европейскому Союзу для России задача явно непосильная. Надо искать союзников. Те, что по Таможенному союзу или СНГ, для этой роли не подходят — весовая категория в международных делах не та. А вот Китай — в самый раз. У руководства России и Поднебесной в последнее время вырисовалось много общего. Да и голосуют в ООН по украинским событиям китайские товарищи как надо. На фоне всеобщего осуждения они по-восточному мудро воздерживаются.

Состоявшийся визит Путина в Китай за время его президентства — далеко не первый. Но этот — особый. Скажем прямо, последние события в Украине вернули всех нас назад, во времена холодной войны. Как в достославные советские часы российская пропаганда “мочит” без устали Запад, а заодно и “продавшееся ему украинское бандеровское руководство”. Мы стоим на пороге создания вновь двухполярного мира. И полюса уже угадываются. Как считают многие в российском руководстве, тесное сотрудничество России и Китая — сбывшийся ночной кошмар для Запада. Китай и Россия становятся не только экономическими партнерами, но и во все большей степени военными союзниками. Не случайно к визиту Путина были приурочены совместные маневры в Восточно-Китайском море отрядов российских и китайских военных кораблей.

Главным в визите должно было стать подписание энергетического соглашения по российскому газу. Тем более что Европа совместно с США, чтобы уйти от российской энергетической зависимости, начала предпринимать конкретные шаги, направленные на ограничение поставок голубого топлива из России. Стало под вопросом строительство газпромовского “Голубого потока” в южную европейскую часть. Переговоры с китайцами по газу россияне вели довольно давно. Основным препятствием скорейшего их разрешения была цена. Подписание газового контракта за время визита Путина в Китай шло тяжело, поскольку сей камень преткновения оставался и дальше. Рентабельность добычи сибирского газа такова, что она будет оправдана при цене не менее 350 долларов за тысячу кубометров. Вначале, по слухам, “Газпром” “заряжал” для Поднебесной даже 450—480 долларов (как для Украины сегодня). Китайцы, вероятно, согласились на цену не выше, чем 300 “зеленых”.

Китай по своим потребностям может закупать 300—350 миллиардов кубометров трубопроводного газа. Россия реально в состоянии поставить до 60 миллиардов кубометров. Пока шли переговоры, успели обвалиться котировки акций “Газпрома”. На Московской бирже они подешевели на 2,33%. Но все-таки к концу визита российского лидера стороны ударили по рукам. Соглашение рассчитано на 30 лет, цена контракта — 400 миллиардов долларов. Исходя из первоначальных ежегодных поставок “Газпромом” газа в Китай через китайскую компанию CNPC в объеме 38 миллиардов кубометров, цена контракта — примерно 350 долларов за 1000 кубометров, что ближе к цене, запрашиваемой китайскими переговорщиками.

По данным российских СМИ, во время визита намечалось обсуждение о продаже Китаю 100 самолетов “Сухой Суперджет”. Самолет этого типа еще не доведен до ума, потерпел ряд аварий на демонстрационных и испытательных полетах. Отдельные специалисты вообще считают его неудачным проектом. Он плохо продается за рубежом. Такой, что называется, можно только “втюхать”. Но китайцы считаются сложными переговорщиками, которые ни на йоту не отступят от национальных интересов. После введения Западом экономических санкций, касающихся платежных систем “Visa” и “Mastercard”, для Путина представляет большой интерес китайский опыт по созданию и эксплуатации Национальной платежной системы “China UnionPay” (CUP). Она существует с 2002 года и действует в 141 стране мира. Имеет более миллиона банкоматов за пределами Поднебесной. Путин, как известно, объявил о намерениях создать свою национальную платежную систему.

Думается, не обошлось и без обсуждения событий в Украине. Еще во времена президента Януковича с китайцами было подписано соглашение о строительстве в Крыму, в Сакском районе, глубоководного морского порта. С учетом изменившейся политической обстановки, т.е. аннексии Крыма, китайская сторона предлагает построить, до зарезу так нужные России, мост или тоннель через Керченский пролив. Это вошло в повестку переговоров. Можно предположить, что о прямом военном союзе между Россией и Китаем пока речь не идет, но такие вопросы скорее всего обсуждались и, как водится, остались вне публичности. Пекин — крупнейший покупатель российского оружия. Китайцы, не стесняясь, умело копируют образцы российской военной техники, в частности самолеты, и запускают их в собственное производство. Россияне об этом хорошо осведомлены, но смотрят на многое сквозь пальцы. У России и Китая сегодня один главный противник — США. Неважно, что с американцами у Китая пятьсотмиллиардный объем взаимной торговли. США поддерживают Японию в споре с Китаем по поводу островов в Южно-Китайском и Восточно-Китайском морях. Они как стояли, так и стоят за спиной враждебного Пекину Тайваня. Вот и вырисовываются полюса двухполярного мира: с одной стороны, Россия—Китай и иже с ними, состоящие в Шанхайском союзе (ШОС), с другой — США, ЕС и НАТО.

Однако далеко не все так гладко между Россией и Китаем. После недавней поездки китайского лидера Си Дзиньпина по постсоветским странам Средней Азии в этот регион интенсифицировались китайские инвестиции. Совместная торговля этих государств (Казахстан, Узбекистан, Кыргызстан, Узбекистан, Туркменистан) на 70—80% завязана на Поднебесную. Китай туда вложил уже более 60 млрд долларов, а Россия — максимум 15—20 миллиардов. И Пекин при этом, как вы понимаете, не советуется с Москвой, а ведет свою игру. И весьма успешно. Большой слой местных элит стал ориентироваться на огромнейшего восточного соседа. Уже до 70% сложных технических объектов в отмеченных странах построено на китайские инвестиции с китайским же, конечно, участием. Ведь хитрые китайцы дают только связанные кредиты, то есть не деньгами, а своими материалами, оборудованием, рабочей силой и специалистами, поддерживая заказами свою экономику.

Все больше китайских граждан, легально и нелегально, оказываются на территории Российской Федерации. Официально зарегистрированных китайских граждан соответствующие российские службы насчитывают 30—35 тысяч, нелегальных — примерно 50—60 тысяч. Но, возможно, их больше. Многие трезвомыслящие россияне обращают внимание правительства на то, что китайцы тихой сапой захватывают хозяйство Дальнего Востока и других регионов России. Таким же способом китайцы колонизировали Индонезию, Малайзию и другие страны Юго-Восточной Азии. Существенная часть большого бизнеса этих стран принадлежит китайцам. Москве следует помнить, что в соседних с Россией трех китайских провинциях проживает почти столько же народа, сколько во всей Руси.

При всех объективных противоречиях между Россией и Китаем все-таки факторов, их объединяющих, на сегодня больше. Прежде всего их объединяет “вертикаль власти”, которую выстраивает в России Путин. Власть Путина приобретает все более авторитарный характер, какой всегда имела власть китайской компартии. И в России, и в Китае элита превратилась в идеологическую обслугу власти, СМИ — в пропаганду. Однако за путинские относительно благополучные годы, когда экспорт энергоносителей давал тучные валютные доходы, Россия не совершила экономического рывка, как это сделал Китай. Руководство Поднебесной, китайская элита оказались мудрее и хитрее. Россия, как и всякая страна, может существовать, развиваясь преимущественно качественно, через модернизацию экономики, либо количественно, расширяя границы. Российская экономика, которая была основана на экспорте природных ресурсов, себя исчерпала, и Путин решил пойти вторым путем, путем внешней экспансии, отвлекая народ от внутренних проблем воинствующим великодержавным шовинизмом и образом врага — треклятого Запада. Точно так, как это делалось в Советском Союзе. Путин разворачивает страну на восток. Благо союзник для этого есть. И вместе с ним развернутся от Европы, Запада, станут к ним спиной и российские сателлиты, в числе которых и Беларусь. Когда власть завязана на одного человека — это огромный риск. Особенно для страны, обладающей полным арсеналом ядерного оружия. Будущее такого полюса мира, мягко говоря, трудно предсказуемо. Но, с другой стороны, история повторяется...

ПРАБЛЕМА!

# Ці з’явіцца ў Салігорску новая паліклініка?

***Пытанне, звязанае з будаўніцтвам новай медыцынскай установы ў горадзе беларускіх гарнякоў, ніяк не можа вырашыцца ўжо на працягу апошніх дзесяці гадоў. Затое за гэты час тут з’явіўся ўзведзены “з нуля” лядовы палац...***



Салігорскую раённую паліклініку пабудавалі ў далёкім 1976 годзе. Тады колькасць гарадскога насельніцтва складала 54 тысячы чалавек.

Сёння, у 2014-м, салігарчан амаль удвая больш. Паводле афіцыйных дадзеных, у горадзе стала жыве 105 тысяч чалавек. І для таго, каб узяць талон на прыём да тэрапеўта ці профільнага спецыяліста, многія з іх займаюць чаргу ля дзвярэй паліклінікі ў шэсць гадзін раніцы — за паўтары гадзіны да яе адкрыцця.

Чацвер, 22 мая, 6.30. Каля трох дзясяткаў чалавек ужо ў чарзе.

*“Для горада гэта звыклая карціна. Кожную раніцу тут процьма людзей, стаім, каб першымі заняць чаргу ў рэгістратуру і ўзяць талон да патрэбнага ўрача,* — гаворыць пенсіянерка Надзея Фёдараўна. — *Мне неабходна трапіць да тэрапеўта, вось і паднялася ў пяць гадзін, каб быць адной з першых. Талонаў, зразумела, хопіць не ўсім. Справа ў тым, што дактары прымаюць у адну змену. Мой, напрыклад, па цотных чыслах працуе з 8 да 13 гадзін, па няцотных у доктара другая змена — з 14 да 19. Вы ведаеце, лепш талон узяць і не нервавацца, бо тым, каму “квіткоў” не хопіць, будуць сварыцца ў чарзе, спрабуючы таксама трапіць на прыём.*

*Канечне, гораду патрэбна новая паліклініка, гэта зменшыць нагрузку на дактароў, зберажэ нервы пацыентам. Але ж зрухаў у яе будаўніцтве няма”.*

Адзін з тых, хто б’е ў званы, патрабуючы вырашыць праблему з узвядзеннем новай салігорскай паліклінікі, — мясцовы жыхар Віктар Малочка. *“Удумайцеся: паліклініка, якая зараз разлічана на 600 наведванняў, прымае штодня 2100 пацыентаў!* — абураецца Віктар. — *У горадзе ёсць яшчэ адна паліклініка, але там абслугоўваюцца толькі тыя, хто працуе на “Беларускаліі”. А ў нашу раённую прыязджаюць жыхары не толькі Салігорска, але і прылеглых да горада населеных пунктаў. Адсюль і трайная перагрузка, пастаянныя чэргі... Праблему з чэргамі спрабуюць вырашыць з дапамогай інтэрнэту — узяць талон на прыём да патрэбнага доктара можна на шэсць месяцаў наперад.*

*Я ўжо не кажу пра недахоп спецыялістаў — на ўвесь Салігорск толькі два ўрачы-анколагі, а праблема з цяжкімі захворваннямі стаіць вельмі востра. Нездарма ж уведзены пастаянны аўтобусны маршрут Салігорск—Бараўляны...”*

Няправільным было б сказаць, што мясцовыя ўлады не ведаюць аб існаванні праблемы. Ведаюць і нават спрабавалі яе вырашыць. Так, яшчэ на пачатку гэтага стагоддзя пад будаўніцтва паліклінікі быў выдзелены ўчастак на вуліцы Багамолава. Аднак у сувязі з узвядзеннем летам 2008 года салігорскага лядовага палаца на гэтым месцы вырас аднапад’езны элітны дом, дзе пасяліліся хакеісты мясцовай каманды і абслугоўваючы персанал арэны.

*“Ніхто не спытаўся ў людзей, што ім важней: лядовая арэна ці новая паліклініка?”* — заўважае Віктар Малочка.

Апошнім часам сярод салігорцаў гуляюць чуткі аб тым, што мясцовымі ўладамі прынята рашэнне аб перадачы пад патрэбы паліклінікі будынка мясцовага ЖЭС №5, што на вуліцы Маладзёжнай. *“Такая інфармацыя ўтрымліваецца ў адказе, які я атрымаў ад дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Таісы Данілевіч і Яўгена Абаленскага,* — працягвае Малочка. — *Яны пасля майго звароту рабілі запыт ва ўпраўленне аховы здароўя Мінаблвыканкама, і, згодна з адказам, атрыманым адтуль, яшчэ ў 2012 годзе будынак ЖЭС №5 перададзены пад патрэбы паліклінікі. Мяркуецца, што там пасля правядзення рэканструкцыі размесцяцца псіханеўралагічны дыспансер, які зараз займае трэць чацвёртага паверха паліклінікі, і аддзяленні прафілактыкі, якія зараз займаюць палову першага паверха ў раённай паліклініцы. Але нічога для гэтага пакуль не зроблена”.*

Каб праверыць словы Віктара Малочкі, накіроўваюся па адрасе Маладзёжная, 5а — менавіта гэты будынак мяркуецца аддаць пад патрэбы медыцынскай установы. Што ж зроблена тут за два гады пасля перадачы гэтага памяшкання? Нічога. У будынку ідзе рамонт. На першым паверсе ў кабінеце працуе жанчына — супрацоўніца ЖЭС: *“Тут як быў ЖЭС, так і застаецца пакуль. Ніхто нічога наконт паліклінікі не ведае...”*

Апошні, хто мог расставіць кропкі над “і”, — галоўны ўрач Цэнтральнай раённай бальніцы Салігорска **Аляксандр Лапуста.**

*“Ведаеце, праблема не такая, як яе хочуць прадставіць,* — гаворыць Аляксандр Антонавіч. — *Звычайна яна ўсплывае падчас выбарчых кампаній. Я вам так скажу: нягледзячы ні на што, зараз наша раённая паліклініка цалкам спраўляецца з нагрузкай”.*

На заўвагу аб тым, што сёння раніцай я на ўласныя вочы бачыў чаргу людзей, якія імкнуліся атрымаць талон на прыём да спецыяліста, Аляксандр Лапуста адрэагаваў так: *“Вы прыйдзіце ў паліклініку не ў шэсць раніцы, а ў шэсць вечара — ніводнага чалавека не будзе”.*

З гэтым таксама спрачацца цяжка — у паліклініцы будуць толькі тыя, хто мае талон на гэты час. А паколькі гэтыя самыя талоны выдаюць ранкам — адсюль і чэргі.

У доказ сваіх слоў аб тым, што праблема з ажыятажам вакол паліклінікі не такая ўжо і вялікая, Аляксандр Антонавіч пры мне набірае нумар рэгістратуры раённай паліклінікі. Спроба патрапіць да ўрача-кардыёлага пацыенту з болямі ў сэрцы (менавіта так апісаў сімптомы галоўны ўрач ЦРБ, пры гэтым не называючы сябе. — **Аўт.**) скончылася паспяхова — па гучнай сувязі яму адказалі: “Альбо прыязджайце да нас да 13.00, альбо выклікайце брыгаду “хуткай дапамогі” на дом”.

*“А тое, што талон на прыём да профільнага доктара можна ўзяць на паўгода наперад, гэта не здзек, а наадварот, крок наперад. Гэта — наша будучае,* — заўважае Аляксандр Лапуста. — *Да свайго здароўя трэба ставіцца беражліва. Калі пацыент ведае, што яму трэба звярнуцца ў прафілактычных мэтах да таго ці іншага спецыяліста, то калі ласка — на прыём можна запісацца і за шэсць месяцаў. І я вам скажу, што калі кожны будзе ўважліва ставіцца да свайго здароўя, то і гэтай паліклінікі, якая ёсць у Салігорску, будзе замнога”.*

Тым не менш адносна новага памяшкання, што выдзелена гарадскімі ўладамі пад патрэбы паліклінікі, Аляксандр Лапуста адзначае наступнае: *“У нас былі і пакуль застаюцца думкі аб тым, каб частка паліклінікі пераехала на вуліцу Маладзёжную, аднак са свайго вопыту ведаю, што перабудаваць старое значна цяжэй, чым пабудаваць новае”.*

“Дык, можа, варта было б замест лядовага палаца будаваць новую паліклініку?” — прама пытаюся ў суразмоўцы.

*“Лядовы палац гораду таксама патрэбны,* — парыруе А.Лапуста. — *Ведаеце, некаторыя супрацоўнікі нашай бальніцы, у тым ліку і я, ходзім у спартзал. Шчыра кажучы, вока радуецца, калі бачыш, колькі людзей там займаецца спортам. Вельмі многа. Таму я за тое, каб людзі менш хварэлі, а больш займаліся спортам, гулялі па лесе і менш звярталіся ў паліклініку...”*

Жаданне Аляксандра Лапусты, які, дарэчы, з’яўляецца дэпутатам раённага Савета, зразумелае і добрае: меней хварэйце, людзі! Але пенсіянеры, якія прыязджаюць за паўтары гадзіны да адкрыцця паліклінікі, каб атрымаць талон на прыём да доктара, наўрад ці думаюць пра тое, як бы хутчэй стаць на канькі і патрапіць у лядовы палац...

Зразумела, што праблема з паліклінікай у Салігорску ўсё ж ёсць. І, хутчэй за ўсё, вырашыцца яна не раней 2025 года. Пра гэта паведаміла старшыня Салігорскага раённага Савета дэпутатаў **Лідзія КЛІШЭВІЧ**.

*“Згодны, што жыхарам горада зараз вельмі патрэбна сучасная паліклініка. Яе будаўніцтва прадугледжана генпланам забудовы мікрараёна №18* (новы салігорскі мікрараён, які толькі пачынае адбудоўвацца. — **Аўт.**) *да 2025 года”,* — напісала яна ў адказе на зварот Віктара Малочкі.

Дзіўна, чыноўнікі прызнаюць, што паліклініка патрэбна Салігорску зараз, а пабудуецца яна, магчыма, толькі праз 11 гадоў... Не ўсе дажывуць да таго дня.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

*Салігорск—Мінск.*

МЕДДАВЕДКА

## Пластыкавыя пальмы ў дварах небяспечныя

### Беларускія медыкі выступаюць супраць розных імправізаваных дваровых упрыгажэнняў.

— Аўтамабільныя шыны, пластыкавыя бутэлькі, мяккія цацкі нельга выкарыстоўваць у добраўпарадкаванні дзіцячай пляцоўкі або двара, — *выказала сваё меркаванне журналістам “Ва-Банкъ” урач-педыятр 1-й дзіцячай паліклінікі Мінска* ***Святлана Ропат.*** — Вы рызыкуеце здароўем. Шыны на сонцы награваюцца і выдзяляюць фенолы і іншыя шкодныя рэчывы, узрастае магчымасць з’яўлення анкалогіі. Мяккія цацкі — гэта не толькі пылазборнік, але і разносчык заразы. На вуліцы бегаюць каты і сабакі, кантактуюць з цацкамі. Дзеці іх чапаюць. А потым цягнуць пальцы ў рот і падхопліваюць інфекцыі і глістоў. Пластыкавыя бутэлькі таксама небяспечныя, і справа не толькі ў тым, што выдзяляюцца небяспечныя рэчывы. Дзеці, асабліва маленькія, крышачку адкруцяць і ў рот сабе пакладуць. У выніку — харчовае атручванне, прычына — бруд. Калі вам важна здароўе дзяцей, то прыбярыце шыны, мяккія цацкі, пластыкавыя бутэлькі з двара. А таксама ўсе вырабы з алюмінію і эмаліраваныя тазікі. У дварах і на дзіцячых пляцоўках лепш за ўсё выкарыстоўваць дрэва. Гэта дорага, але бяспечна.

У Мінгарвыканкаме да меркавання спецыялістаў прыслухаліся: паводле яго загаду выкарыстаныя шыны трэба ўтылізаваць.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
27 МАЯ 2014 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Эдуард ЗАНКАВЕЦ:*

# «Апетыт прыходзіць падчас гульні»

*Асістэнт галоўнага трэнера зборнай Беларусі па хакеі **Эдуард ЗАНКАВЕЦ** распавёў "Народнай Волі" пра тое, як беларускія хакеісты адзначылі 7-е месца на чэмпіянаце, колькі яны атрымаюць прэміяльных і чаму галоўны трэнер **Глен ХЭНЛАН** назаўсёды пакінуў каманду.*



**— На мінулым чэмпіянаце беларуская каманда заняла 14-е месца, на гэтым — сёмае. Відавочны прагрэс! Якія эмоцыі гэта выклікае ў вас сёння?**

— Эмоцый ужо абсалютна няма. Але галоўную ацэнку гульні зборнай, як мне падаецца, павінны даць балельшчыкі. І пакуль у свой адрас мы чуем толькі станоўчае. Нават пасля паражэння ў чвэрцьфінале ад шведаў аматары хакея праводзілі нас пад апладысменты. Гэта было неперадавальна!

**— Па шчырасці — разлічвалі на такі вынік?**

— Думаю, калі б перад чэмпіянатам у трэнераў запыталі: "Ці згодны вы на сёмае месца?", усе адназначна адказалі б: "Так!" Але ж апетыт прыходзіць падчас гульні. А гульня давала падставы для аптымізму, і вынік мог быць пры пэўных раскладах нават лепшы. Не буду крывіць душой — мы спадзяваліся і шведаў перамагчы, гэта было абсалютна рэальна.

**— А нашы чыноўнікі вам якую задачу ставілі, калі была такая?**

— Патрапіць у васьмёрку мацнейшых. Зрэшты, такія мэты ставяцца штогод. А ўвогуле хацелі, незалежна ад выніку, паказаць такую гульню, за якую не было б сорамна перад балельшчыкамі.

**— Ці будуць нейкія прэміяльныя для каманды за ўдалае выступленне?**

— Так канкрэтна пытанне не ставілася, але мы ведалі, што прыйдуць грашовыя бонусы ад Міжнароднай федэрацыі хакея. Гэта і пойдзе на заахвочванне каманды.

**— Можа быць, калектыў нейкім чынам адзначыў падзею?**

— Разумееце, пасля пройгрышу шведам не той настрой быў, каб нешта адзначаць. Нагоды для вяселля не было, таму з чэмпіянатам развіталіся ціха. Сабраліся разам, падзякавалі адзін аднаму за добрую работу, павіншавалі... А банкетаў ніякіх не ладзілі, і, наколькі ведаю, яны не плануюцца.

**— У мінулую нядзелю многіх балельшчыкаў шакіравала заява галоўнага трэнера беларускай зборнай Глена Хэнлана, што ён з'язджае з Беларусі і больш каманду ўзначальваць не будзе...**

— Так, Хэнлан больш не вернецца, але асабіста я пра гэта ведаў яшчэ да першынства. Такое жыццё. Глен прыняў рашэнне, зыходзячы не з нейкіх меркантыльных момантаў, а таму, што так склаліся сямейныя абставіны. Гадаваць дзяцей на адлегласці — гэта складана.

**— Але ж у яго кантракт быў падпісаны на два гады.**

— Там ёсць пункты аб магчымасці датэрміновага скасавання дамовы.

**— Ці не спрабавалі нашы чыноўнікі ўгаварыць застацца канадскага спецыяліста?**

— Можа, і спрабавалі, але гэта было бессэнсоўна. Паўтаруся, сямейная сітуацыя склалася такая, што ён павінен быў з'ехаць.

**— Адным словам, зараз зборная зноў без галоўнага трэнера?**

— Так.

**— Эдуард, як вам увогуле мінскі чэмпіянат?**

— На мой погляд, ён быў арганізаваны на самым высокім узроўні. Я не ведаю, як сябе пачувалі балельшчыкі ў зонах гасціннасці, але ад калег і хакеістаў чуў толькі добрыя водгукі. Якой камандзе не падабаецца гуляць пры амаль запоўненых трыбунах?!

**— Чым асабіста вы будзеце зараз займацца? На любімую рыбалку?..**

— Не, трэба ж прысвячаць час не толькі хакею, але і сям'і. А затым пабачым...

**Алесь СІВЫ.**

МОЗАИКА

*"Советский спорт" обратил внимание на гипертрофированное желание организаторов чемпионата мира по хоккею в Минске во всем угодить иностранным гостям, порой приводившее к вакханалии болельщиков.*

*"Тяжело наблюдать за отвратительной, безудержной и абсолютно открытой тотальной пьянкой на улицах Минска,* — написало издание. — *Особенно в городке болельщика, в самом сердце белорусской столицы, у старого Дворца спорта. Посетил более 20 чемпионатов мира, но такой вакханалии не видел никогда! В этой фан-зоне не только всю ночь пиво бьет фонтаном, здесь без ограничения разливают любые крепкие напитки. Мне страшно смотреть на толпы пьяной молодежи, пьющей водку из горла даже в автобусах. В этом пресловутом городке болельщика регулярно по малейшему поводу вспыхивают драки. Видел позавчера своими глазами, как парень летел через стол вниз головой. Все это просто ужасно! Я понимаю, организаторы ЧМ-2014 хотели сделать как лучше. Но нельзя же доводить до абсурда!"*

***

*Вчера утром чемпионы мира — хоккеисты из сборной России прилетели из Минска в московский аэропорт Внуково. В итоге руководство команды осталось недовольно приемом на родине.*

Как передает "Эхо Москвы", по словам генерального менеджера команды Андрея Сафронова, спортсменам вместе с детьми и женами пришлось идти от аэровокзала к автобусу полтора километра. Сафронов считает, что во всем виновата Федерация хоккея России, которая не подготовила должную встречу победителям чемпионата мира.

***

В воскресенье состоялась церемония включения белоруса Руслана Салея — первого из наших соотечественников — в Зал Славы Международной федерации хоккея. Его жена Беттэнн не смогла прибыть в Минск, однако записала на видео обращение к присутствующим: *"Огромная благодарность всей вашей стране и каждому, что помните про Руслана. Приятно, что таким образом оценены заслуги мужа. Я горжусь им. Каждый день вижу в наших детях..."*

***

*По информации "Прессбола", бывший спортивный директор минского "Динамо" **Игорь Матушкин** был задержан за незаконное распространение билетов на полуфинальный матч россиян и шведов.*

Ранее сотрудники ОБЭП Центрального РУВД Минска задержали 42-летнего минчанина. Он пытался сбыть 138 билетов на матч Казахстан—Финляндия за 1600 долларов. После задержания торговец добровольно сдал 108 билетов на матч Казахстан—Финляндия, 40 билетов на матч Дания—Франция, 16 билетов на матч Италия—Швеция и 4 билета на матч Дания—Словакия. Все билеты имели нулевую стоимость, то есть распространялись через профсоюзы и трудовые коллективы.

***

64 матча чемпионата мира в Минске посетили 640.044 зрителя. Средняя посещаемость при этом составила 10.000 человек. Это новый рекорд чемпионатов мира. Предыдущий рекорд принадлежал ЧМ-2004 в Чехии и составлял 9859 зрителей на одном матче.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Адбалявалі!

***Чэмпіянат свету па хакеі, які праходзіў у Мінску, у мінулую нядзелю завяршыўся перамогай зборнай Расіі і начнымі оргіямі балельшчыкаў.***





Перад фіналам, у якім сустракаліся зборныя Фінляндыі і Расіі, беларускую сталіцу накрылі расійскія сцягі, па якіх можна было вывучаць геаграфію балельшчыкаў: Магадан, Бранск, Урал, Крым... Па вуліцах хадзілі дзяўчаты ў какошніках, дзеды марозы і мядзведзі, якія фатаграфаваліся з беларускімі пафарбаванымі д'яблам і залатым хакеістам. Апошні, дарэчы, быў з вусамі.

Журналісты ўжо ведалі, што на матч прыязджае расійскі кіраўнік, а таму стараліся патрапіць на арэну зараней. І не памыліліся, бо тых, хто вырашыў зайсці ў ложу прэсы акурат перад гульнёй, заблакавалі людзі ў цывільным: *"Нікога пакуль не прапускаем, бо прыехаў Пуцін".*

**Пуцін** глядзеў матч на трыбуне побач з **Лукашэнкам.** Сабе ў кампанію яны ўзялі яшчэ аднаго аматара хакея — таджыкскага прэзідэнта **Эмамалі Рахмона**. Ва ўрадавым сектары, дарэчы, знаходзілася і наша вядомая біятланістка **Даша Домрачава.**

Што да матча, то Расія ў той вечар на самай справе была мацнейшая, хоць двухразовы алімпійскі чэмпіён **Вячаслаў Фяцісаў** і сыпануў солі суайчыннікам: *"У Мінск прыехалі не тыя сапернікі, у якіх трэба браць рэванш. Гэта не тыя фіны, якія выйгралі ў расіян на Алімпіядзе ў Сочы. І не тыя амерыканцы..."*

Аднак перамога ёсць перамога. Пуцін зайшоў пасля гульні ў распранальню да расійскіх хакеістаў, дзе яму прапанавалі выпіць з чэмпіёнскага кубка шампанскага. Пуцін выцер вусны, прыклаўся да кубка, пасля чаго хакеіст Аляксандр Авечкін закрычаў: *"Мужыкі, мы гэта зрабілі! Усе разам, камандай, б..!"*




Трэба дадаць, што радасць расійскіх балельшчыкаў біла праз край, а таму ўчарашняя ноч у сталіцы нагадвала нейкія оргіі. П'яныя выбягалі на праезную частку, з машын тырчэлі расійскія сцягі і ногі, алкаголь ліўся ракой, а міліцыя ў бяссіллі скрыгатала зубамі. Толькі пасля трох гадзін ночы народ, які сабраўся ў зоне гасціннасці, пачалі разганяць па дамах.

Чэмпіянат закончыўся, адбалявалі!..

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Зборная Беларусі ў выніку заняла на гэтым першынстве 7-е месца. У наступным годзе сусветны хакейны форум пройдзе ў Чэхіі, дзе сапернікамі беларусаў у групе будуць каманды Фінляндыі, Расіі, ЗША, Славакіі, Нарвегіі, Славеніі і Даніі.*

ШАХМАТЫ

## Решите задачу

*А.Миронов*



**Белые:** Крd1, Фа5, Лb3, Лc3, Са2, Сh2, Ка4, Ке7 (8).

**Черные:** Крd4, Лd6, Ка6, Ке1, пп. c5, e4, e6, f6, g5 (9).

**Мат в 2 хода.**

Предлагаем вниманию читателей двухходовую задачу белорусского составителя Алексея Миронова (1939—2001). За более чем 40-летнюю творческую жизнь он составил около 150 задач, многие из которых были отмечены призами и отличиями на конкурсах. Свои ответы на задачу присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".**

## В споре — команды!

В Минске прошел XVI чемпионат Беларуси по шахматам среди клубных команд и команд коллективов. В нем выступили 11 команд. В составе каждой играли по шесть основных и два запасных участника. Соревнования проводились по швейцарской системе в семь туров. Среди участников соревнований было девять гроссмейстеров, международные мастера, мастера спорта, способные молодые спортсмены.

Со старта лидерство захватила команда Минска, которая одерживала одну победу за другой. В итоге минчане стали чемпионами, набрав 14 очков из 14 возможных. В составе команды-победительницы играли (в порядке досок) гроссмейстеры Сергей Жигалко, Владислав Ковалев, Кирилл Ступак, Виталий Тетерев, международный мастер Виталий Мерибанов, кандидат в мастера Александр Кочеев.

Серебряные медали у команды "Вектор", которую возглавляли международный мастер Павел Ломако, гроссмейстеры Евгений Подольченко, Елена Заяц, Юрий Тихонов.

На самом финише определился третий призер. Бронзовые медали выиграла команда ВДВ, которую возглавляли гроссмейстеры Виктор Купрейчик, международные мастера Евгений Мочалов, Валерий Смирнов, Эдуард Колесник.

В индивидуальном зачете на первой доске отличился 14-летний кандидат в мастера Михаил Никитенко, набравший 4,5 очка из 6. На второй лучшей была международный мастер Ланита Стецко — 4 из 5, на третьей — Кирилл Ступак — 6,5 из 7, на четвертой — Виталий Тетерев — 6,5 из 7, на пятой — международный мастер Сергей Хамицкий — 4 из 5, на шестой — мастер спорта Андрей Малюш — 4,5 из 5.

По итогам турнира команда Минска завоевала право представлять нашу страну на командном чемпионате Европы.

ПЕРСОНА

# Из личной жизни директора Прокопцова

Насколько я знаю Владимира Ивановича Прокопцова, а знаю я его давно, личной жизни у него осталась тоненькая полосочка: поесть, поспать и посмотреть на портрет жены кисти народного художника Масленникова. Все свое время и пространство человек тратит, нет, посвящает любимой работе — Национальному художественному музею. Отвлекусь и скажу: на последнем мероприятии — ежегодном Международном проекте "Ночь музеев" — было продано невиданное количество билетов — 10.000 штук! И каждый десятый, наверное, просил разрешения сфотографироваться лично с Прокопцовым. А вы говорите, что музей — это застывшее время...

Но вернемся к личной жизни господина директора. Пришли неожиданные сведения: оказалось, что и у Владимира Ивановича бывают праздники. Проводит он их, доложу я вам, более чем изобретательно. В свой последний выходной, например, уехал рисовать картину на улицы Витебска. И пожарника пригласил, так как, по его словам, давно сгорает от любви к этому городу (учился здесь!) и боится, что пламя из его сердца перекинется на соседние здания. (Роль пожарника исполнял коллега, художник Цыбульский.)

В общем, получился перфоманс, он собрал немало зрителей. Некоторые горожане так увлеклись публичным сеансом художественного творчества, что начали давать советы Владимиру Ивановичу, как закончить холст. Тогда он достал кисти и пригласил всех желающих попробовать самим поработать над картиной. И желающие нашлись!

— Конечно, Шагал серьезно приватизировал Витебск. Но этот город принадлежит не только ему! — неожиданно круто повернул в разговоре Владимир Иванович. — Он принадлежит и народному художнику Леониду Дмитриевичу Щемелеву, который здесь родился, да и мне частичка его тоже принадлежит! Я пишу уже третью картину о Витебске, я вижу сны об этих холмах. Может, и стихотворение скоро сочиню.

Но о чем бы вы ни говорили с директором Прокопцовым, рано или поздно все равно будете слушать его рассказы о Национальном художественном. Так вот, есть хорошие новости. В самом ближайшем будущем музей ждет новый этап реконструкции, а именно — ремонт зданий по улице Кирова и по улице Карла Маркса, то есть начнется глобальное расширение его площадей. Потом дома соединятся между собой, а также с главным корпусом музея стеклянными переходами. И родится целый музейный квартал. На его создание государство выделило 68 млрд белорусских рублей. Их нужно освоить до конца года. А в следующем году будет новый этап финансирования из бюджета, стройка продолжится.



...Буквально перед выходными во дворе музея открылось летнее кафе. Пока это просто столики под зонтиками. Но идеи по его дизайну — все-таки святая музейная территория! — принимаются.

**Елена МОЛОЧКО.**
**Фото Дмитрия ОСИПОВА.**

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл./факс
(017) 3286871.
Тэл.рэкламнага
аддзела:
(017) 3286609,
3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647




Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік
і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч
СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 26.05.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26500 экз. Заказ №1915.